ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (26) май 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# У гонар апостала Піншчыны

**У Пінскай дыяцэзіі 15-16 мая адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя 75-годдзю кананізацыі Андрэя Баболі.**

**Зміцер Лупач**

Урачыстасці ў Пінску распачаліся з прэс-канферэнцыі, на якой кіраўнікі Каталіцкага Касцёла ў Беларусі адказалі на пытанні журналістаў. Было дадзена слова і адміністратару Віцебскай дыяцэзіі ксяндзу-прэлату Францішку Кісялю, які з'яўляецца пробашчам парафіі святога Андрэя Баболі ў Полацку.

Кс. Францішак распавёў, як ён распачынаў сваю працу, калі ў амаль статысячным Полацку не было касцёла, патлумачыў, чаму менавіта Андрэя Баболю яны выбралі нябесным апекуном парафіі.

Перад літургіяй у Пінскай катэдры адбыўся канцэрт духоўнай музыкі, а таксама былі прачытаныя два даклады. Айцец Юзаф Макарчык OFMConv з Гродзенскай дыяцэзіі распавёў пра гісторыю Пінскай архікатэдры. У часы Андрэя Баболі касцёл быў драўляны, але пасля чарговага пажару, які здарыўся на пачатку XVIII стагоддзя, было вырашана пабудаваць мураваны касцёл. Цэглы вакол Пінска не было, і яе завозілі водным шляхам ажно з Кіева. "Можа, гэта і паспрыяла цеснай сувязі Піншчыны з Украінай", – адзначыў дакладчык.

Кс. Андрэй Раманчук распавёў пра жыццё святога Андрэя Баболі, яго пакутніцкую смерць, а таксама далейшы лёс парэшткаў святога.

Андрэй Баболя, якога называюць Апосталам Палесся, нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611-ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены казакамі, быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

Перад Святой Імшой, якую ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці, вернікаў прывітаў біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка. Ён адзначыў: "Амаль чатыры пакаленні таму, 17 красавіка 1938 года, нашы продкі былі сведкамі і ўдзельнікамі ў Рыме ў Белую нядзелю (...) велічнай падзеі. Тагачасны Папа Пій XI у прысутнасці дзясяткаў тысяч вернікаў з усяго свету абвясціў на плошчы Св. Пятра ў Рыме, што пасля адпаведных працэдураў, прадпісаных Апостальскім Пасадам, Андрэй Баболя, душпастыр Палесся, з Ордэна езуітаў, 16 мая 1657 года замучаны ў Янаве-Палескім за каталіцкую веру, абвяшчаецца святым".

У святочным набажэнстве прымалі ўдзел беларускія біскупы, Апостальскі адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, Мітрапаліт Шчэцінска-Каменскі арцыбіскуп Анджэй Дзенга, біскуп на пенсіі Ломжынскай дыяцэзіі (Польшча) Станіслаў Стэфанэк, святары, кансэкраваныя асобы, прадстаўнікі ўлады, госці з замежжа, пілігрымы.

*Працяг на стар. 2*





## Увага! Падпіска на другое паўгоддзе 2013 года!

**Дарагія сябры!**

Пачалася падпісная кампанія на другое паўгоддзе 2013 года.

Заахвочваем вас, дарагія нашы чытачы, падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Кошт падпіскі на месяц – **3000 рублёў**, на тры месяцы – **9000 рублёў**, на шэсць месяцаў – **18000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

Мінск

# Сустрэча з братам Бенуа

**5 мая ў архікатэдральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску адбылася сустрэча з братам Бенуа з супольнасці Тэзэ.**

**Ганна Ліцкевіч**, *тэкст і фота*



Прысутныя пачулі гісторыю супольнасці, даведаліся, як жывуць браты сёння, а таксама падзяліліся сваімі ўражаннямі ад наведвання вёскі Тэзэ.

"Гэта вельмі важна, што маладыя людзі маюць магчымасць прыязджаць у Тэзэ, а ў братоў ёсць магчымасць іх прымаць. Але таксама вельмі важна праводзіць сустрэчы там, дзе гэтыя маладыя людзі жывуць", – зазначыў брат Бенуа. Менавіта з гэтай нагоды з 70-х гадоў мінулага стагоддзя супольнасць ладзіць спатканні моладзі. Апошняя такая сустрэча адбылася на пачатку года ў Рыме. Яна сабрала каля сарака тысяч пілігрымаў, у тым ліку больш за тысячу – з Беларусі.

Вельмі важнай з'яўляецца экуменічная атмасфера гэтых спатканняў. Супольнасць дапамагае прадстаўнікам розных канфесій разам ісці да крыніцы веры і любові. На сустрэчы з братам Бенуа таксама панаваў дух экуменізму. Прысутныя каталікі, грэка-каталікі і праваслаўныя адчувалі сябе адной хрысціянскай сям'ёй.

Тэзэ злучае не толькі прадстаўнікоў розных канфесій, але і прадстаўнікоў розных краін. Адзін з арганізатараў сустрэчы, Дзмітрый Моніч, адзначыў: "У Тэзэ твае рамкі рассоўваюцца. Таму што тут, у беларускім касцёле, у нас ёсць свае традыцыі, і мы думаем, што Бог такі. У Тэзэ ты бачыш людзей, якія прыязджаюць з Афрыкі, Азіі, у цябе з'яўляецца зусім іншае бачанне Бога і ты разумееш, што наш Бог нашмат большы, чым ты мог сабе ўявіць".

Пасля сустрэчы адбылася малітва ў харызме Тэзэ. Падчас малітвы прагучалі спевы супольнасці. "Мяне вельмі кранула тое, што, падарожнічаючы па Беларусі, на малітвах я чуў гэтыя спевы. Так я адчуваў сябе як дома", – сказаў на развітанне брат Бенуа.

# У гонар апостала Піншчыны

*Пачатак на стар.1*

У сваім казанні арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці ўзгадаў часы пераследу веры ў СССР. "Парадаксальным чынам пераслед яднае католікаў і праваслаўных, – адзначыў святар. – У той момант, калі нехта імкнецца знішчыць хрысціянства, гісторыя дзвюх Цэркваў становіцца адной гісторыяй мучаніцтва". Далей арцыбіскуп падкрэсліў: моц Касцёла ў тым, што ён не прадаецца ні адной з палітычных сілаў, што "ўлада будзе ўдзячная Касцёлу, калі ён зможа ўнесці ў грамадства тое асабістае, што можа ўнесці толькі ён, не будучы звычайным інструментам на службе палітычных сілаў".

Другі дзень святкавання праходзіў у Іванаве Брэсцкай вобласці. Урачыстасць пачалася каля двух крыжоў – каталіцкага і праваслаўнага, якія ўсталяваныя на тым месцы, дзе казакі схапілі Андрэя Баболю. Адсюль пачалася працэсія да касцёла ў Іванаве. Менавіта гэтым шляхам казакі коньмі валаклі звязанага святога да месца яго пакутніцкай смерці.

Падчас працэсіі вернікі маліліся за беларускі народ, за яго навяртанне да веры. Наперадзе ішоў пробашч парафіі кс. Павел Кручак, які нёс рэлківіі святога.

Урачыстую Імшу ў іванаўскім касцёле ўзначаліў Мітрапаліт Шчэцінска-Каменскі арцыбіскуп Анджэй Дзенга з Польшчы. На Імшы прысутнічалі іерархі Касцёла ў Беларусі, святары, кансэкраваныя асобы, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу і ўлады, вернікі з Іванава, а таксама пілігрымы з Беларусі і Польшчы.

У сваім слове да вернікаў Мітрапаліт Дзенга заклікаў бацькоў даваць сваім дзецям імёны святых і тлумачыць, што азначае мець свайго апекуна ў небе.

Напрыканцы набажэнства біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка абвясціў касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў Іванаве санктуарыем. Ён выказаў пажаданне, каб культ святога Андрэя Баболі і надалей распаўсюджваўся як на Палессі, так і ва ўсёй Беларусі.

Біскуп таксама паведаміў прысутным аб тым, што дзякуючы старанням спадара Язэпа Янушкевіча з Мінска знойдзены дзве невядомыя раней паэмы Янкі Купалы, прысвечаныя жыццю і мучаніцкай смерці Андрэя Баболі. Адну з іх іерарх зачытаў у касцёле.

Закончыліся ўрачыстасці наведваннем брацкай магілы, у якой пахаваны кс. Вітальд Івіцкі, былы Генеральны вікарый Пінскай дыяцэзіі. Святар, разам з іншымі закладнікамі, быў арыштаваны і расстраляны гітлераўцамі падчас Другой сусветнай вайны. Гэта была помста фашыстаў за вызваленне з пінскай турмы партызанаў і за смерць двух немцаў, якія вартавалі вязніцу.

Духоўны подзвіг святога Андрэя Баболі можа служыць прыкладам і для нас, жыхароў XXI стагоддзя. Зараз, дзякуй Богу, немагчыма, каб за веру чалавека падвяргалі такім жорсткім катаванням, але, тым не менш, сучасны секулярны свет поўны іншых выклікаў. Людзі жывуць толькі сваімі матэрыяльнымі патрэбамі, у шмат якіх краінах узаконеныя аднаполыя шлюбы, што раз гучней гучаць галасы супраць хрысціянства. Таму прыклад святога Андрэя Баболі няхай прыпамінае нам пра мужнасць і вытрымку ў вызнаванні веры.

*Фота Змітра Лупача; Рамана Сушы, catholic.by*





# Статыстыка Касцёла

**За мінулы год колькасць католікаў на свеце павялічылася. На сённяшні дзень іх ужо 1214 млн. чалавек, што на 1,5 % больш у параўнанні з 2011 г.**

Гэта вынікае з сёлетняга выдання "Annuario Pontificio" – даведніка, у якім утрымліваецца падрабязная статыстычная інфармацыя пра Касцёл. 13 мая яго прадставілі Папу Францішку. Паводле зборніка, католікі складаюць 17,5% ад усяго насельніцтва планеты. Найбольш інтэнсіўна іх колькасць расце ў Афрыцы (яна павялічылася на 4,3% у параўнанні з 2011 г.) і ў Азіі (на 2%). У Еўропе і Амерыцы гэтыя паказчыкі ніжэйшыя – тут колькасць католікаў павялічылася толькі на 0,3%.Назіраеццатаксама павелічэнне колькасці біскупаў. Ва ўсім свеце іх 5132. Гэта на 0,55% больш, чым у 2010 г. Асабліва заўважна колькасць біскупаў узрасла ў Акіяніі (на 4,6%) і ў Афрыцы (на 1 %). Аднак да гэтага часу 70% біскупаў паходзяць з Еўропы і Амерыкі.

Колькасць святароў і законнікаў на працягу апошніх 10 гадоў павялічылася на 2,1%, сёння іх налічваецца 413418 чалавек. Аднак гэтая дынаміка не з'яўляецца аднолькавай для ўсіх кантынентаў. Рост колькасці святароў адбываецца ў асноўным за кошт новых пакліканняў у Афрыцы (больш на 39,5%) і Азіі (на 32%). У Еўропе за апошнія 10 гадоў святароў стала менш на 9%.

Цікава, што за гэты самы перыяд амаль на 40% павялічылася ў свеце колькасць сталых дыяканаў. Пазітыўная дынаміка тычыцца ў першую чаргу еўрапейскага кантыненту, дзе іх стала больш на 43%. 97,4% усіх сталых дыяканаў у свеце прыпадае на Еўропу і Амерыку. Колькасць законных братоў павялічылася ў Афрыцы (на 18,5%) і Азіі (на 44%), але значна паменшылася ў Еўропе (на 18%), Амерыцы (на 3,6%) і Акіяніі (на 21,9%).

Таксама за апошнія 10 гадоў у свеце амаль на 10% паменшылася колькасць законніц.

Што тычыцца новых кандыдатаў на святарства, то іх, у параўнанні з 2001 г., стала больш на 7,5 % і сёння налічваецца 120 616 чалавек. Рост колькасці семінарыстаў у асноўным адбываецца за кошт Афрыкі (тут іх стала больш на 30,9%) і Азіі (на 29,4%).

Новы "Annuario Pontificio" прадставілі Святому Айцу Дзяржсакратар кардынал Тарчызіа Бэртонэ і субстытут Апостальскай Сталіцы, арцыбіскуп Анджэла Бэчу. Даведнік распрацавала Цэнтральная статыстычная служба Святога Пасада.

*Ватыканскае радыё*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі **Марыя Матус** (г. Валожын, Мінская вобл.), **Ірэна Паўловіч** (Крулеўшчына,Докшыцкі р-н), **Ядвіга Шакола** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Вольга Парневіч** (Крулеўшчына,Докшыцкі р-н), **Ядвіга Пупкевіч** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Рэгіна Ракуцкая** (г. Браслаў), **Леанід Юрык** (г. Глыбокае), **Вікторыя Свідэрская** (в. Коты, Шаркаўшчынскі р-н), **Юзэфа Шарабайка** (в. Прыпернае, Глыбоцкі р-н), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Станіслаў Вышадка** (в. Заварата, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку!** Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас блаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Праграма Урачыстасцяў Святога Яна Хрысціцеля ў Мосары

**22-23 чэрвеня 2013 года**

**Падчас парафіяльнага Адпуста Святога Яна Хрысціцеля, 24 чэрвеня, шмат пабожных людзей збіраецца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і бласлаўленне, пра якія прыходзяць прасіць святога Юстына.**

Святкаванне парафіяльнай урачыстасці ў Мосары ў гэтым годзе будзе адбывацца паводле наступнага раскладу:

**22 чэрвеня (субота)**

**10:00** – Святая Імша з навукай.
**11:00** – Малітва на Ружанцы за сем'і, моладзь і дзяцей каля капліцаў.
**13:00** – Святая Імша з навукай.
**14:00 - 16:30** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў капліцы.
**17:00** – Акафіст з удзелам хору Уніяцкай царквы з Віцебска і Полацка і малітва ва ўсходнім абрадзе.
**18:00** – Святая Імша з навукай.
**19:00** – Малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры.
**20:00** – Абрады хрысціянскага "Купалля" з вогнішчам, спевамі і забавамі.

**23 чэрвеня (нядзеля).
Вігілія Урачыстасці
Святога Яна Хрысціцеля**

**10:00** – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
**12:00** – Выступленне хораў «Голас душы» і «Арханёл» з парафіі св. Сымона і Алены (Мінск).
**12:45** – Літанія да святога Юстына.
**13:00** – Урачыстая Святая Імша, якую ўзначаліць ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Працэсія вакол касцельнай зямлі.

**24 чэрвеня (панядзелак).
Урачыстасць Святога Яна Хрысціцеля**

**13:00** – Урачыстая Святая Імша.

Падрабязная інфармацыя на сайце:
mosar.vickyblog.com

Тэл. + 375336761000
E-mail: mosarterra@gmail.com

# Свята працы

**У нашай краіне 1 мая адзначалася Свята працы. Яно прыходзіць да нас, калі ў зямлю, якая ажыла пасля зімы, сеюць збожжа, закладваючы падмурак новага ўраджаю, а значыць, і дабрабыту народа.**

**Ірына Высоцкая**



У парафіі Святога Станіслава ў Далёкіх у гэты дзень была ўрачыстасць у гонар святога Юзафа Працаўніка, які з'яўляецца прыкладам для ўсіх, хто працуе. Менавіта праз яго заступніцтва можна выпрасіць ласку працаваць у духу пакаяння, сумлення і з пачуццём абавязку, з радасцю і ўдзячнасцю Богу, годна, спакойна, па меры сваіх сіл і з цярплівасцю, не траціць час дарэмна і не змарнаваць свае таленты.

Да свята рыхтаваліся загадзя: разнеслі лісты ў кожны дом, падрыхтавалі плакаты, у касцёле арганізавалі выставу прыладаў працы і работ вясковых умельцаў.

У часе святой Імшы маліліся ў інтэнцыі прадстаўнікоў розных прафесій. Складаючы дары Пану Богу, прасілі аб добрым надвор'і на пасяўную, бласлаўленні на добры ўраджай, аб тым, каб нашу працу, навуку, кожнае намаганне Пан Бог пераменіў у дабро для нашых блізкіх і ўсіх людзей.

Шкада, што на св. Імшы не было працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Зразумела, што ў іх працоўны дзень, напружаны час. Але, напэўна, каб гэта праца пачыналася бласлаўленнем, то і справы ў гаспадарцы ішлі б лепш. Для нас звыкла, што на нейкую свецкую ўрачыстасць адпраўляюцца дэлегацыі, а чаму б такія ж дэлегацыі не выпраўляць і на рэлігійныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да святаў працаўнікоў?

Працагам урачыстасці сталі рэкалекцыі, падчас якіх удзельнікі разважалі над сваёй верай, над адносінамі з Богам і бліжнімі, тым самым паглыбляючы ўнутраны кантакт з Творцам і аднаўляючы сваё духоўнае жыццё.

2 мая была магчымасць прыйсці на адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту аб умацаванні веры, а 3 мая – на адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту аб цвярозасці.

Тэма першага дня рэкалекцый – "Апостальскі сімвал веры". Ксёндз Лешак Вітвіцкі дапамагаў разважаць над тым, што азначае "любіць Бога".

Тэма другога дня – "Дзесяць Божых запаведзяў – маральныя асновы нашага хрысціянскага жыцця". Айцец Мірaслаў Капчэўскі распавядаў пра тое, што 10 Божых запаведзяў – гэта інструкцыя да жыцця, якая дадзена Богам чалавеку.

Тэма трэцяга дня – "Жывая прысутнасць Езуса ў сямі Святых Сакрамантах". Ксёндз-дэкан Анджэй Возьняк паглыбіў нашы веды пра Сакраманты як бачныя знакі, праз якія Пан Бог пасылае нам Сваю ласку.

Тэма чацвёртага дня – "Малітва – спатканне і размова з Езусам". Ксёндз-пробашч Анджэй Бочар на прыкладзе малітвы "Ойча наш" тлумачыў, як трэба маліцца. Адзін з галоўных момантаў у малітве – неабходнасць навучыцца слухаць.

Усе гэтыя падзеі паволі падвялі нас да парафіяльнага свята – Дня Святога Станіслава.

Зразумела, што ў кожнага парафіяніна ёсць свае штодзённыя справы: праца, хатняя гаспадарка і іншае. Аднак неабходна, нягледзячы на такую занятасць, вучыцца знаходзіць час і для Бога.

### Хвала Богу на вышынях

*Хвала Богу на вышынях –
Хрыстос з мёртвых уваскрос!
Перамог Ён брамы смерці,
Душы да нябёс узнёс.*

*Неба і зямля спяваюць:
Алелюя, наш Хрыстос,
Бо няма ўжо пакуты,
Святлом цемру знішчыў Бог.*

*Ён святою моцай Божай
Дзверы неба адчыніў.
Сэрцы нашыя любоўю
Праз сакрамант асвяціў.*

*Будзем разам весяліцца,
Песні радасна спяваць.
І ад усёй душы Хрыста мы
Будзем шчыра праслаўляць!*

*Ларыса Івашына,
Дзяржынск*

### СЕМІНАР-ТРЭНІНГ НА ТЭМУ СУЗАЛЕЖНАСЦІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ВІЦЕБСКУ

**12-16 чэрвеня 2013 г.** у Віцебску (касцёл Езуса Міласэрнага) пройдзе базавы семінар-трэнінг. Вядоўца семінара-трэнінгу – Таццяна Астроўская, псіхолаг, спецыяліст па хімічнай залежнасці.

Запрашаюцца тыя, каго цікавіць пытанне залежнасці і сузалежнасці, а асабліва:

• родныя залежных людзей, сузалежныя;
• урачы, псіхолагі, сямейныя кансультанты, сацыяльныя работнікі;
• тыя, хто працуе з людзьмі і з дзецьмі з залежных сем'яў;
• святары, манахіні;
• людзі, якія не маюць вопыту працы ў дадзенай сферы, але цікавяцца заяўленай праблемай.

**Запіс на семінар:
+ 375 29 997-51-59 (Vel)
+ 375 33 698-42-47 (МТС)**

### У БАРАНАВІЧАХ АДБУДУЦЦА ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ

**14-17 чэрвеня 2013 года** ў Баранавічах адбудуцца рэкалекцыі для свецкіх «Уводзіны ў ігнацыянскую малітву» на падставе духоўных практыкаванняў св. Ігнацыя Лаёлы, заснавальніка Таварыства Езуса, ордэна езуітаў.

**1-8 ліпеня і 10-18 ліпеня 2013 года** ў Баранавічах адбудуцца індывідуальныя ігнацыянскія рэкалекцыі для святароў і сясцёр (братоў) законных.

Ахвотных прыняць удзел у рэкалекцыях і тых, у каго ёсць звязаныя з гэтым пытанні, просім звяртацца па тэлефонах:

**+375 44 465 18 78,
+375 29 205 206 7,
+375 163 58 16 32,**
або на e-mail:
victoriamsf@tut.by

***с.Вікторыя Жук***

Паставы

# Сустрэча духавенства

**У касцёле св. Антонія Падуанскага і Беззаганага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Паставах 8 мая адбылася супольная сустрэча ўсіх святароў і законных сясцёр Віцебскай дыяцэзіі.**

**Карына Радзюш**, *тэкст і фота*

Пробашч мясцовай парафіі кс. Анджэй Возьняк гасцінна прывітаў усіх душпастыраў і законніц з розных куточкаў нашай Віцебскай вобласці.

На пачатку спаткання адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, дзе ўсе прысутныя маліліся за дзяцей, якія ў гэтым годзе прымаюць Першую Святую Камунію.



Пасля святой Імшы, якую цэлебраваў кс. Францішак Кісель, Апостальскі адміністратар Віцебскай дыяцэзіі, адбылася канферэнцыя, якую прамовіў духоўны айцец для законных сясцёр Віцебшчыны ксёндз Антоні Зёмба SDS з Браслава. Сваю канферэнцыю ён прысвяціў Уваскрасенню Хрыста.

На працягу сустрэчы можна было набыць у выдавецтва «Pro Christo» малітоўнік ці якую-небудзь іншую цікавую духоўную кнігу.

# Сёстры міласэрнасці



**Сястра Фаўстына Цыдзік з'яўляецца заснавальніцай Дома міласэрнасці ў Каменцы. Там знаходзяць прытулак цяжкахворыя людзі. Пра супольнасць сясцёр Маці міласэрнасці і іх дзейнасць чытайце ў гэтым інтэрв'ю.**

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*

**– Сястра Фаўстына, раскажыце, калі ласка, пра заснаванне Вашага ордэна.**

– Наш ордэн мае цікавую гісторыю. Справа ў тым, што яго ў 1937 годзе заснаваў свецкі чалавек. Больш за тое, ён быў вайскоўцам. Звалі яго Тадэвуш Бярэцкі. На жаль, ён не змог працягваць сваю справу з-за вайны. Таму супольнасцю сясцёр заапекаваўся кс. Юзаф Грасевіч. У савецкія часы сёстры не насілі манаскага адзення. Гэта было небяспечна. Ды і наогул яны ў той час ніяк не паказвалі сваёй прыналежнасці да ордэна. Аж пакуль у 1991 годзе не апранулі габіты*.

**– У сясцёр была добрая канспірацыя...**

– Мы былі змушаныя да гэтага навакольнымі абставінамі. Усё адбывалася таемна: і рэкалекцыі, і шлюбы. Калі ладзіліся сумесныя сустрэчы, то пасля іх сёстры разыходзіліся паасобку, з інтэрваламі ў часе, каб не прыцягваць увагі.

**– Які галоўны дэвіз ордэна? На што звяртаюць сваю ўвагу сёстры ў працы?**

– Галоўнай ідэяй нашага заснавальніка было, каб сёстры маглі несці сваё служэнне паўсюль: і ў парафіі, і па месцы жыхарства, і на свецкай працы. Ён вельмі хацеў аднавіць рэлігійнае жыццё людзей праз паслугу сясцёр. У 1993 годзе наш ордэн быў зацверджаны Апостальскай Сталіцай. На сённяшні дзень, кажучы коратка, наш дэвіз – гэта міласэрная любоў. Сваім жыццём, працай і малітвай сёстры з нашай супольнасці нагадваюць людзям пра любоў Бога, якая міласэрная.

**– Колькі цяпер сясцёр у ордэне?**

– Сёння ў ордэне 25 сясцёр. Яны працуюць пераважна ў Беларусі: у Ліпнішках, Солах, Гродне, Жалудку, а таксама ў Вільні. Сёстры дапамагаюць пры парафіях: вучаць дзяцей рэлігіі, дапамагаюць святарам у закрыстыі, іграюць на аргане. Адметна тое, што кожная маладая сястра, якая да нас прыходзіць, абавязкова паступае ў катэхетычны інстытут і атрымлівае адукацыю. Калі мае нейкія асаблівыя здольнасці, напрыклад, да музыкі, то ў ордэне стараюцца іх развіваць.

**– У свеце за апошнія 10 гадоў паменшылася колькасць манахінь на 10 працэнтаў. Як вы думаеце, чым тлумачыцца гэты крызіс?**

– Галоўная прычына тут, лічу, – гэта недахоп сапраўднага выхавання дзяцей і моладзі ў сем'ях. Я маю на ўвазе, вядома, рэлігійнае выхаванне. Калі няма супольнай малітвы, калі дзеці не ведаюць, што такое Св. Імша ў нядзелю, то як гэты малады чалавек або дзяўчына пачуе Божы голас? І канешне, пакліканне да жыцця ў ордэне – гэта ахвярнае пакліканне. Немагчыма ўявіць сабе жыццё манахіні без службы Богу і іншаму чалавеку. А сённяшні свет адцягвае ўвагу маладых людзей. Могуць таксама з'яўляцца нейкія страхі: ці гэта маё, ці спраўлюся? Але важна ўмець пачуць Божы голас і адказаць на яго, бо гэта вялікая ласка.

**– У чым праяўляецца міласэрная любоў, пра якую Вы ўзгадалі?**

– У Каменцы, дзе знаходзіцца наш матчын дом, створаны прытулак для састарэлых людзей. Хворымі і састарэлымі людзьмі апякуюцца не толькі сёстры. Нам дапамагаюць таксама свецкія. Гэта не дзіва, таму што ў прытулку знаходзіцца 25 чалавек, якім неабходная дапамога. Большасць з іх – ляжачыя. Апека такіх людзей вымагае шмат працы і часу. Наш клопат пра іх – гэта не толькі клопат пра цела, але і пра душу. У кожнага з нашых пастаяльцаў свая гісторыя і свой лёс. Мы заўсёды прапануем кожнаму паяднацца з Богам праз сакрамант споведзі. Прыязджае заўжды святар. А для праваслаўных запрашаем бацюшку. Мы таксама клапоцімся пра дзяцей з паталагічных сем'яў. На дадзены момант пры кляштары жывуць дзве дзяўчынкі. Для іх кляштар сясцёр Маці міласэрнасці – гэта сапраўдны дом.



**– З якімі цяжкасцямі Вы сутыкаецеся ў сваёй працы?**

– Вядома, нам даводзіцца сутыкацца з матэрыяльнымі праблемамі. Але ўсё ж такі не гэта галоўнае. Дапамагаюць парафіяне з Каменкі і не толькі. Вельмі добрае ўзаемапаразуменне з мясцовымі ўладамі. Яны таксама аказваюць нам падтрымку. Самі трымаем невялічкую гаспадарку: агарод, жывёлу і г.д... Заўсёды цяжкасці матэрыяльнага кшталту можна вырашыць. Горш, калі сутыкаешся з каменным сэрцам дзяцей тых людзей, якія ў нас знаходзяць прытулак. Бывае, на жаль, і так, што дзеці прывязуць да нас маці або бацьку і зусім не наведваюць. Маці чакае, смуткуе, а сын або дачка дзесьці далёка і нават не тэлефануюць. Аднойчы родныя браты нават не маглі паразумецца, хто павінен заняцца пахаваннем памерлай маці. Цяжка зразумець такія паводзіны.

**– Вы непасрэдна апякуецеся Домам міласэрнасці. А ці маеце яшчэ нейкія абавязкі ў ордэне?**

– Я з'яўляюся генеральнай маці. Гэта значыць, адказваю перад Богам і Касцёлам за ўсіх сясцёр. У нашай парафіі вяду заняткі рэлігіі для дзетак і займаюся парафіяльным хорам.

**– Як сястра-начальная Вы, напэўна, ведаеце пра планы супольнасці?**

– Мы молімся пра новыя пакліканні ў наш ордэн. І, канешне, хочам яшчэ павялічыць Дом міласэрнасці, каб магчы прыняць большую колькасць людзей у патрэбе. Думаю, неабходна засяродзіцца на гэтым напрамку. Тым больш, што і Папа Францішак усім нам прыпамінае пра любоў да бліжняга, пра міласэрнасць да іншага чалавека. Таму хацелася б таксама больш звярнуць увагу на выхаванне дзяцей-сіротаў і дзяцей з паталагічных сем'яў.

**– Ад імя чытачоў "Каталіцкага Весніка" жадаю Вам і ўсім сёстрам з Вашай супольнасці шматлікіх Божых ласкаў і шмат неабыякавых людзей у Вашым служэнні.**

– Дзякуй вялікі.

*габіт – манаскае адзенне

**Ад рэдакцыі.**

Калі хтосьці з нашых чытачоў хоча бліжэй пазнаёміцца з сёстрамі Маці міласэрнасці і іх дзейнасцю, прапануем іх адрас: вул. Школьная 1, агр. Каменка, 231555 Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл., Беларусь тэл. 80297886184.

# Фэст у Шуміліне

**Штогод 13 мая і 13 кастрычніка ў санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Шуміліне адбываюцца асноўныя ўрачыстасці ва ўспамін першых і апошніх марыйных аб'яўленняў у Фаціме. Вернікі з розных куточкаў Беларусі збіраюцца тут, каб супольнай малітвай прасіць Панну Марыю пра заступніцтва.**

**Анастасія Даўгілава**, *тэкст і фота*



Як і кожны год, з віцебскай парафіі св. Барбары прыйшла пешая пілігрымка з песнямі і малітвамі да Маці Божай. Таксама ў гэтым годзе тры чалавекі прыехалі на роварах, сярод якіх была сястра Ёнаша з парафіі Езуса Міласэрнага.

У Шуміліне пілігрымаў віталі як мясцовыя парафіяне, так і ўсе тыя, хто прыехаў у гэты дзень да Маці Божай Фацімскай: вернікі з Віцебска, Наваполацка, Мінска, Брэста.

Сёлетняя ўрачыстасць распачалася традыцыйна – з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і Вяночка да Божай міласэрнасці. Пасля Літаніі да Найсвяцейшай Панны Марыі пачалася ўрачыстая святая Імша, якую ўзначаліў а.Марэк Пісарэк OMI, што працуе ў мясцовай парафіі.



На заканчэнне святой Імшы адбылася ружанцовая працэсія каля касцёла. Падчас працэсіі, несучы фігуру Маці Божай, вернікі маліліся, кожны ў сваіх інтэнцыях.

Пасля працэсіі а.Марэк удзяліў бласлаўленне ўсім удзельнікам урачыстасці, а пробашч парафіі а. Анджэй Юхневіч выказаў падзяку ўсім прысутным айцам і законным сёстрам, якія прыехалі са сваімі парафіянамі на свята. А пасля гасцінна запрасіў усіх ахвотных на вельмі цікавы пункт праграмы – канцэрт гурта "Рэха" з Мінска.

Завяршылася свята вячэрай, якую прыгатавалі для гасцей клапатлівыя вернікі шумілінскай парафіі.



# ЗАПРАШАЕМ НА КОНКУРС ПРЫГАЖОСЦІ!

**Усе ведаюць, што беларускія дзяўчаты і жанчыны вельмі прыгожыя. Аднак не ўсім вядома, што іх прыгажосць паўней раскрываецца ў сціпласці. Таму запрашаем усіх ахвотных дзяўчат і жанчын прыняць удзел у конкурсе прыгажосці "Прыгажуня Весніка".**

Спаборніцтва будзе праходзіць на сайце catholicnews.by – электроннай версіі газеты "Каталіцкі Веснік".

**1. Перыяд правядзення конкурсу.**
**Пачатак конкурсу:** 15 мая 2013 г.
Фотаздымкі прымаюцца да 7 чэрвеня 2013 г.
Галасаванне: 8-15 чэрвеня 2013 г.
16 чэрвеня – **вызначэнне Прыгажуні Весніка**

**2. Галоўная мэта конкурсу – паказаць ПРЫГАЖОСЦЬ У СЦІПЛАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЎЧАТ.**

Удзельніцы спаборніцтва будуць змагацца за тытул "Прыгажуня Весніка".

Каб прыняць удзел у конкурсе, неабходна даслаць на электронную пошту СВАЕ фотаздымкі. Пераможцаў вызначыць рэдакцыя, прымаючы да ўвагі вынікі анлайн-галасавання.

**3. Прызы конкурсу:**
- каштоўныя прызы;
- падпіска на газету "Каталіцкі Веснік";
- публікацыя фотаздымкаў пераможцаў у чэрвеньскім або ліпеньскім нумары газеты.

**4. Журы конкурсу:**
аўтарызаваныя карыстальнікі сайта і супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік".

**5. Правілы і ўмовы конкурсу:**
- выбіраючы здымкі для конкурсу, удзельніцам неабходна памятаць пра сціпласць і эстэтыку;
- дасылаць здымкі трэба на адрас mail@catholicnews.by з пазнакай КОНКУРС. Абавязкова трэба напісаць прозвішча, імя, хатні адрас з індэксам і кантактны тэлефон;
- у конкурсе могуць прыняць удзел толькі 3 фотаздымкі ад адной ўдзельніцы. Узрост удзельніц – ад 15 гадоў;
- на конкурс не прымаюцца фатаграфіі з выявамі мужчын, дрэннай якасці, з вялікай датай і часам здымкаў. Не будуць прынятыя здымкі дзяўчат з тварамі ў сонечных акулярах і ў купальніках;
- здымкі павінны быць зробленымі не раней за лета 2012 года;
- фатаграфіі прымаюцца строга да 7 чэрвеня. Здымкі, дасланыя пасля гэтай даты, не будуць апублікаваныя;
- у конкурсе будуць вызначаныя тры ўдзельніцы-пераможцы, якія набяруць найбольшую колькасць галасоў;
- калажы да ўдзелу ў конкурсе не дапускаюцца. Апрацоўка ў праграме Photoshop або нейкай іншай праграме павінна быць мінімальнай;
- галасаваць за фатаграфію на сайце могуць толькі аўтарызаваныя карыстальнікі. Каб прагаласаваць, калі ласка, зарэгіструйцеся на сайце catholicnews.by.

*Рэдакцыя «Каталіцкага Весніка»*

# СВЯТАРЫ ПРА СПОРТ

**Даўно вядома, што фізічныя практыкаванні прыводзяць чалавека ў тонус, вылечваюць некаторыя хваробы, бадзёраць. Асабліва зараз, вясной, калі абуджаюцца прырода і чалавек, яны прыносяць шмат не толькі фізічнай, але і духоўнай карысці. Таму "Каталіцкі Веснік" спытаў у святароў, якія віды спорту ім даспадобы.**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Кс. Юрый Барок:**
– Люблю футбол і гуляю ў яго колькі сябе памятаю! Але апошнім часам вельмі цяжка знайсці такую магчымасць. Футбол вучыць дамаўляцца, быць часткай калектыву, спрыяе сяброўству. Калектыўны від спорту наш мат цікавейшы, у ім больш радасці і эмоцый. Сам гуляў у камандзе на пазіцыі левага паўабаронцы. Мне падабаецца шмат рухацца па полі і addаваць сябе напоўніцу. Мушу прызнацца, што футбол – гэта частка майго жыцця.



**Кс. Аляксандр Грыцкевіч:**
– Мне падабаецца аўтамабільны спорт, асабліва ралі – рэйды. Люблю ўсходнія адзінаборствы (але імі не займаюся). А займаюся настольным тэнісам. Вельмі люблю рыбалку (але не спартыўную, а аматарскую), асабліва спінінг. Люблю палазіць на пачатку восені па рэчках і азёрах, падыхаць свежым, крыштальна чыстым паветрам, пазахапляцца россыпам фарбаў і паразважаць аб высокім...

**Кс. Юрый Жаўняровіч:**
– Часам гавораць: рух фарміруе розум, сэрца і цела. Заняткі спортам трэніруюць характар і сілу волі. Калі чалавек, займаючыся спортам, ідзе да пастаўленай мэты і дасягае яе, то і ў жыцці ён будзе вырашаць пастаўленыя задачы. А калі робіць гэта разам з Богам, то і "горы можа пераносіць".

З маленства я быў зацікаўлены рознымі відамі спорту. Рознабаковасць спартыўных практыкаванняў у школе, напэўна, кожны з нас адчуў. Было б жаданне і здароўе... Гэтыя практыкаванні не скончыліся і ў семінарыі. Гулялі мы і ў футбол, і ў баскетбол, і ў настольны тэніс, мелі трэнажорную залу.

Цяпер я пражываю ў каледжы сярод студэнтаў. Спорт аб'ядноўвае людзей! Калі адказваць на пытанне, што больш падабаецца, напэўна, трэнажорная зала. Можа таму, што як малады святар знаходжу ў гэтым спорце шмат адказаў на жыццё. Трэнажорная зала звычайна ўспрымаецца як цалкам сумнае месца, многія хутка трацяць да яе цікавасць і адмаўляюцца ад трэніровак. Не хапае матывацыі, веры ў тое, што мы ў стане вырашыць пастаўленыя перад сабой задачы. Чым большая гэтая вера, тым хутчэй дасягаюцца вызначаныя мэты. А чым больш намераў мы рэалізуем, тым больш усведамляем, што здольныя прыняць новы выклік. Чалавек, пачынаючы з малых, паступова пераходзіць да больш сур'ёзных вагаў. Такім чынам умацоўваецца вера ва ўласныя сілы.



**а. Антон Нікалаеў, CSSR:**
– Яшчэ ў школе я зацікавіўся вулічнымі танцамі. Самымі блізкімі мне сталі брэйкданс (breaking) і попінг (popping, які памылкова называлі верхнім брэйкам або электрык-бугі). Праходзіў час, а жаданне развіваць гэты талент не знікала. І вось пару гадоў назад я знайшоў у сеціве відэаўрокі па гэтых стылях танцаў і пачаў сур'ёзна займацца.

Мне падабаецца фізічная актыўнасць. Хацелася выкарыстаць свае здольнасці ў працы з моладдзю. Яна любіць такія рэчы і не супраць цікава і актыўна праводзіць час. Вось мае веды і прыдаліся ў перыяд маладзевых фэстаў і летнікаў, дзе пантамімы і сцэнкі з танцавальнымі спецэфектамі былі ўспрынятыя на "ўра!"

Яшчэ мне ўдалося арганізаваць гурток па вулічных танцах, які моладзь палюбіла, зладзіць некалькі моладзевых фэстаў, часткай каторых былі спаборніцтвы па розных відах танцаў. Удзел у іх прымала таксама шмат "нецаркоўнай" моладзі. Такія спаборніцтвы былі моцным сведчаннем таго, што Царква цікавіцца маладым пакаленнем. І, канешне, была цудоўная магчымасць распавядаць пра Бога падчас такіх фэстаў.



**Кс. Антоні Грэмза:**
– Я вельмі мала часу прысвячаю спорту. Расклад заняткаў не дазваляе. Лічу для сябе вялікім дасягненнем, калі зраблю ранішнюю гімнастыку. Тады маю на ўвесь дзень бадзёры настрой. Калі надараецца магчымасць і маю вольны час, то з вялікай прыемнасцю гуляю з моладдзю ў валейбол, з міністрантамі – у настольны тэніс, а летам не адмоўлюся ад байдарачнага паходу па рэках Беларусі. Лічу, што сёння спорт як форма фізічнага адпачынку вельмі неабходны. Асабліва тады, калі вельмі шмат часу праходзіцца камп'ютарам і кніжкай. Спорт здымае псіхічную стомленасць і нясе бадзёрасць. Таксама спорт, асабліва для дзяцей і моладзі, можа быць формай душпастырскай дзейнасці і пазітыўнага ўплыву. З дапамогай спорту можна сёння аб'ядноўваць людзей і несці ім прыклад здаровага жыцця. Таму маё стаўленне да спорту вельмі пазітыўнае. Цаню той час, які магу прысвяціць спартыўным заняткам і сустрэчам з рознымі людзьмі.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Каля сямі месяцаў у нашай парафіі працаваў ксёндз Адам Дынак.***

*За гэты кароткі час шмат было зроблена для аднаўлення парафіі, для развіцця яе духоўнага жыцця. Цяпер ён працуе ў Віцебскай дыяцэзіі.*

*У канцы мая ў ксяндза Адама Дынака – Дзень святарскіх пасвячэнняў і Дзень нараджэння.*

***Паважаны ксёндз Адам Дынак! З гэтай нагоды віншуем Вас! Няхай Святы Дух адорвае Вас сваімі дарамі, а Маці Божая будзе заўсёды побач.***

*«Маргарытка», парафія «Спаслання Святога Духа» (г. Барысаў)*

# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ



## Православные и католики: возможно ли объединение?

*“Почему католики и православные не могут объединиться?”*
*Алина*

**На вопрос отвечает дк. Виктор Жук SJ, иезуит, студент 3-его курса богословия Папского Григорианского университета:**

– В Евангелии от Иоанна 17-ая глава посвящена молитве Иисуса о Его будущих учениках, и особенно о единстве среди них, а значит в том числе и среди нас, христиан XXI века. Иисус, глядя на учеников и на их слабость, предусматривал печальную перспективу споров и расколов среди верующих в Него и одновременно осознавал важность их общего свидетельства миру. Деяния Апостолов (напр., 15-ая глава) рассказывают о некоторых примерах противоречий среди первых христиан. Эти разногласия касались прежде всего вопроса о необходимости принятия Закона евреев язычниками, обращающимися в веру во Христа.

До сих пор мы часто спорим о ритуалах и о разном понимании внешних проявлений веры. В определенный момент эти и другие разницы стали отдалять Церковь Запада и Востока, вплоть до обоюдных отлучений от Церкви (которые, однако, были сняты в 1965 г. папой Павлом VI и Константинопольским патриархом Афинагором).

Разделения – прежде всего знак того, что мы не совершенны в любви и не способны до конца услышать голос Святого Духа, не способны уступить ради блага других, не способны прощать. Разделения болезненны и приносят вред в различных сферах нашей жизни. Важно осознавать, что для Бога мы все составляем единую семью Его детей и призваны жить согласно этой фундаментальной истине. Именно так нам нужно относиться к нашим «отделенным братьям» православным, с которыми у католиков одинаковое понимание практически всех истин веры. Главным камнем преткновения для православных является роль Папы Римского во вселенской Церкви: они не согласны признать его первенство над патриархами каждой из поместных церквей. Однако также и среди восточных христиан-некатоликов есть мнение, что «единый центр» может помочь ученикам Христа выступать совместно перед многими вызовами этого мира. С другой стороны, Папа Бенедикт XVI неоднократно выражал готовность к дискуссии по вопросу роли епископа Рима во вселенской Церкви.

Важно уметь ценить то, что каждая церковная традиция привносит в общее богатство христианской традиции. Это касается духовности, примера святых, литургии и т.д. Католическая Церковь молится, чтобы Господь объединил всех христиан «тогда, когда Он захочет, и так, как Он захочет». Это значит, что объединение – прежде всего дело Бога, но нам нужно усиленно просить Его об этом. И, конечно же, от нас зависит, насколько дружелюбно или враждебно мы относимся к тем, кто принадлежит иной традиции нашей общей веры в Бога Отца, Его Сына Иисуса Христа и Святого Духа.

## Як правільна пасціць?

*“Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці абавязкова пасціць кожную пятніцу на працягу году?”*
*Валянціна*



**На пытанне адказвае кс. Алег Буткевіч, парафія св. Антонія, г. Віцебск:**

– Пост як адна з практыкаў пакаяння ўвогуле павінен быць неад’емнай часткай духоўнага жыцця верніка. Само па сабе паняцце посту прадугледжвае ўстрыманне чаго-небудзь або ад чаго-небудзь (“пост” – ад франц. “забарона”, адсюль маем „post“ пры ўваходзе на тую ці іншую тэрыторыю). Калі кажуць, што чалавек “прытрымліваецца посту” або “накладае на сябе пост”, гэта азначае, што чалавек добраахвотна паставіў перашкоду перадсваімі пачуццёвымі задавальненнямі дзеля таго, каб іх паўстрымаць і падпарадкаваць.

Зразумела, гэта можа датычыцца не толькі ежы, але і забаваў, музыкі, камп’ютарных гульняў і г.д. Дарэчы, памылкай было б прытрымлівацца толькі аднаго віду посту (напрыклад, адмовіцца ад скаромнай ежы), і цалкам ігнараваць іншы, і наадварот.

На жаль, сёння ў Касцёле аддаецца перавага посту духоўнаму, пакідаючы цялеснае ўстрыманне ўсё больш на ўласны выбар. А якраз у нашым целе і схаваны той “вораг”, які стрымлівае духоўны ўзрост чалавека і нават, будучы некантраляваным, вядзе да граху. Гэтым “ворагам” з’яўляецца сапсаванасць нашай людской натуры праз першародны грэх, пасля якога *“... цела імкнецца да цалкам іншага, чым дух, а дух да цалкам іншага, чым цела, і адсюль няма паміж імі згоды...”* (Гал. 5,17). Прычым дух у параўнанні з натурай слабейшы, і, калі пакінуць яго ў гэтым змаганні без дапамогі, – безумоўна, прайграе.

Таму, каб перамагчы, чалавек патрабуе падвойнай дапамогі. Па-першае, таго Божага дару, які мы называем ласкай, што ачышчае і ўзмацняе наш дух. Падругое, посту, які таксама спрыяе ачышчэнню душы і цела, а перадусім стрымлівае памкненні нашай сапсаванай натуры і дазваляе трымаць яе ў падпарадкаванні розуму. Касцёл жа, карыстаючыся сваім настаўніцкім аўтарытэтам, устанаўлівае мінімальна абавязковую перыядычнасць карыстання гэтай дапамогай. Прынамсі, раз на год у Велікодны перыяд – споведзь і Св. Камунія, захаванне саракадзённага посту перад святам Пасхі, і ў кожную пятніцу на ўспамін крыжовай пакуты і смерці Госпада (па-за Актавай Вялікадня) на працягу літургічнага года (ККК 1438).

Напрыканцы хачу прывесці словы аднаго з Айцоў Пустыні Яна Калобы, які казаў так: “Калі кароль хоча здабыць непрыяцельскі горад, перадусім перакрывае падвоз вады і харчавання: тады непрыяцель паддаецца яму, бо гіне з голаду. Таксама і з пажадлівасцю цела: калі чалавек посціць і галадае, слабеюць ворагі яго-най душы”.

## Якія наступствы смяротнага граху?

***“Растлумачце, калі ласка: калі чалавек зрабіў смяротны грэх, нават некалькі, а потым пакаяўся, ці зменіцца пасля гэтага ягоны лёс, ці будзе ён несці пакуты пры зямным жыцці і ці ёсць у яго шанец быць уваскрослым?”***
*Алена*

**Адказвае кс. Валерый Марціноўскі, парафія Езуса Міласэрнага, Віцебск:**

– Адказваючы на гэтае пытанне, хачу растлумачыць сэнс пакарання за грахі. Касцёл адрознівае вечнае пакаранне ад часовага (ККК 1472 і наступныя). Смяротны грэх пазбаўляе чалавека камуніі з Богам і замыкае педад ім уваход у вечнае жыццё. Гэта вечнае пакаранне. Аднак, калі чалавек пакаяўся за грэх і прыняў хрост ці (у выпадку ахрышчанага) прыступіў да споведзі і атрымаў прабачэнне грахоў, то вечнае пакаранне здымаецца, і праз заслугі Езуса Хрыста чалавеку адкрываецца Нябеснае Валадарства. Часовае ж пакаранне застаецца. Гэта не штосьці штучнае, дадзенае Богам, але, хутчэй, плён грэшнага чыну. Гэта кара выплывае з прыроды граху. Напрыклад, хтосьці здрадзіў жонцы. На споведзі гэты грэшнік атрымаў прабачэнне граху, але засталіся вынікі здрады: сямейная рана, крыўда, аслабленая любоў, недавер, жаданне разысціся і г.д. Атрымліваецца, што чалавек, хоць і шкадуе за грэх і атрымаў сакрамантальнае прабачэнне, але павінен яшчэ прайсці праз шматлікія цярпенні: альбо на зямлі, альбо пасля смерці (у чысцы). Сэнс гэтых пакутаў у тым, каб падрыхтавацца да больш поўнага (на зямлі) і абсалютнага (у небе) прыняцця ахвяраванай любові.

З гэтага вынікае, што кожнае сапраўднае пакаянне вяртае чалавека на шлях Евангелля, а гэта дарога, на якой мы сутракаемся з нашым Збаўцам. Таму нават часовае пакаранне будзе лёгкім для таго, хто ўсе цяжары ўсклаў на плечы Езуса Хрыста і поўнасцю Яму даверыўся. Можа, уваходзіць “праз вузкую браму” часамі і не так проста, але *“шырокая брама і прасторная дарога вядуць да згубы, і многія ўваходзяць праз яе. А вузкая брама і вузкая дарога вядуць у жыццё, але нямногія знаходзяць яе”* (Мц 7, 13-14). Той жа, хто яе знойдзе, знойдзе і хвалу ўваскрашэння.

## Вывучайце Святое Пісанне разам з намі!

### Віктарына

**Прапануем вам праверыць сябе на агульнае веданне кнігі Быцця. Што вам вядома пра Эдэмскі сад?**

**1. Дзе размяшчаўся Эдэмскі сад?**
а) на нябёсах
б) на іншай планеце
в) на ўсходзе Эдэма
г) яго ніколі не існавала

**2. Што павінны былі есці жывёлы і людзі ў часы Эдэмскага саду?**
а) раслінную ежу
б) усё, што яны пажадаюць
в) садавіну, агародніну, мяса, малако
г) манну нябесную

**3. Назавіце імя анёла, які ўзбунтаваўся супраць Бога?**
а) Міхал
б) Рафал
в) Габрыэль
г) Люцыфер

**4. У выглядзе якой істоты д’ябал спакусіў Еву?**
а) Пацук
б) Змяя
в) Каршун
г) Яшчарка

**5. Згодна са Святым Пісаннем, Сатана з’яўляецца айцом...?**
а) багацця
б) зямлі
в) гора
г) хлусні

**6. Што здарылася, калі Адам і Ева з’елі плод з Дрэва пазнання дабра і зла?**
а) Адбылося грэхападзенне
б) Нічога страшнага не адбылося
в) Яны захварэлі
г) Ім давялося забіць змяю

**7. Што зрабілі Адам і Ева, калі зразумелі, што яны без адзення?**
а) Схаваліся адно ад аднаго
б) Здабылі шкуру і апрануліся
в) Сшылі апаясанне са смакоўных лісцяў
г) Закрыліся пальмавымі лістамі

**8. З чаго Бог зрабіў вопратку для Адама і Евы?**
а) З лісця дрэў
б) Са скуры жывёл
в) З шэрсці жывёл
г) З бавоўны

**9. Чаму Бог выгнаў Адама і Еву з Эдэмскага саду?**
а) Каб адпомсціць ім за непаслухмянасць
б) Каб яны не пакаштавалі пладоў ад дрэва жыцця
в) Каб не перашкаджалі нікому
г) Каб памяталі, якія плады есці нельга

**10. Што зрабіў Бог, каб Адам і Ева не вярнуліся ў Эдэм?**
а) Зачыніў вароты ў Эдэмскі Сад
б) Цалкам разбурыў Эдэмскі Сад
в) Паслаў дзікіх жывёл ахоўваць уваход у сад
г) Паставіў на ўваходзе Херувіма з мячом

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 8

# Что такое одиночество и как с ним бороться

**Психолог Арик Сигма захотел подсчитать количество непосредственного личностного общения людей друг с другом. Результаты исследования были опубликованы в журнале британского Института биологии. Оказалось, что с 1987 по 2007 гг. время общения уменьшилось на 4 часа.**

■ **Юрий Романюк**, *психолог*

Социальные психологи тоже заинтересовались проблемой одиночества, поскольку она становится самой актуальной «болезнью 21 века». Они провели эксперимент на мышах. Несколько грызунов посадили в индивидуальные пустые клетки и подходили к ним в течение месяца только для того, чтобы дать корм. Другая группа мышей вела обычную жизнь, общаясь с соседями по клетке, развлекаясь лесенками и другими игрушками. Затем всех мышей инфицировали вирусом гриппа. Из тех, кто жил вместе, даже заболели не все, а другие довольно быстро выздоровели. А вот одинокие страдальцы болели очень тяжело, с осложнениями и несколькими летальными последствиями. Вывод: даже мышам нужно, чтобы кто-то был рядом.

**...даже мышам нужно, чтобы кто-то был рядом**

Для человека одиночество – это ощущение пустоты. Общение с окружающими, семьей, друзьями не приносит удовольствия. Такой человек чувствует себя изолированным. Можно чувствовать одиночество как нечто неопределенное, своего рода как своеобразную душевную пустоту. Или можно переживать одиночество как очень сильную душевную боль. Чувство одиночества может прийти в любую минуту, даже без явной на то причины.

Когда человек развивается, у него появляются новые ощущения. Мир меняется, когда мы с кем-то встречаемся. Каждая наша встреча и каждое наше событие проходит через призму нашего опыта. Но к ожиданиям и волнениям в предвкушении нового нередко приходит чувство одиночества. Мы можем оставаться одни в течение длительного периода и не чувствовать одиночества. С другой стороны, мы можем находиться среди друзей и в знакомом месте и чувствовать одиночество, даже не подозревая, в чем же причина.

Можно ли понять одиночество? Да! Для этого надо проанализировать свои чувства.

Ты чувствуешь себя одиноким когда:

■ тебе не с кем поделиться своими чувствами;

■ ты воспринимаешь себя как недоступный для других объект, непривлекательный, который не стоит внимания, даже если другие не разделяют этого мнения;

■ когда ты одинок, ты чувствуешь, что у тебя нет больше выбора, кроме как оставаться таким;

■ ты чувствуешь, что тебе не хватает общения;

■ ты стоишь перед изменениями в жизни: новая школа, новый дом, новые друзья…

Хотел бы ещё заметить, что одиночество – это не только плохое состояние души. В жизни, наверное, возникают ситуации, когда хочется побыть одному. И это нормально!

**Очень часто одиночество – это состояние, в котором нам лень обращать внимание на ближнего...**

А вот когда чувствуем, что попали в ловушку нашего одиночества и с этим приходит ощущение безнадежности и отчаяния, тогда это и становится реальной проблемой, которую надо решать.

Очень часто одиночество – это состояние, в котором нам лень обращать внимание на ближнего, лень проявлять активность в сторону общества, и общество отвечает тем же. Когда мы стараемся удержать такое состояние в себе, углубиться в него, то открываем двери для депрессии и чувства безнадёжности. Для начала нужно признать, что ты чувствуешь одиночество. Чтобы перестать чувствовать себя одиноким, мы сначала должны признать, что чувствуем его. Иногда признать это очень сложно. Тогда мы должны выразить свои чувства в каком-то другом виде. Мы можем описать это в собственном дневнике или написать письмо воображаемому другу, нарисовать картину, написать песню, слепить что-то с пластилина, глины.



Нужно делать то, что позволяет нам выразить свои собственные чувства. Выражение собственных чувств заставляет нас замечать много вещей, которые связаны с нашим одиночеством: это наш гнев, злость, неуверенность в себе. Мы стали бы замечать, откуда возникают эти чувства и как они влияют на нашу жизнь. Поскольку мы начинаем замечать некоторые связи, мы будем в состоянии начать делать изменения.

Выход из любого состояния – в действии. Самым продуктивным считается волонтёрство – помощь тому, кто в ней нуждается. Детские дома, дома-интернаты, хосписы могут нуждаться в вашей помощи. Чем больше у вас планов и забот, тем больше энергии.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**19 мая 2013 г.** **Дз 2, 1-11**

Святы Дух, Які сышоў на Езусавых вучняў, будуе Касцёл. Дае свае дары і перамяняе сэрцы вучняў. Робіць іх здольнымі выконваць пакліканне. Дух заклікае да супольнасці Касцёла ўсіх людзей. Незалежна ад мовы, культуры і сацыяльнага становішча. Ён пацвярджае знакамі дзейнасць вучняў. Ён – галоўны ў Касцёле. Гэта Бог – ініцыятар, гэта Бог узмацняе Касцёл, гэта Бог дае плёны веры. Вучні, верныя Яго слову, чакаюць Божага Духа, адкрываюча на Яго і жывуць Яго натхненнямі.

*– Ці разумею, што мая вера – гэта не духоўнае "хобі"?*

*– Ці цаню тое, што я запрошаны Богам да жыцця веры ў Святым Касцёле?*

*– Ці сярод штодзённых спраў майго жыцця веру слову Езуса, а можа, у некаторых справах Яму не давяраю?*

*– Ці шукаю ў святара і ў навуцы Касцёла растлумачэння тых спраў, каторых не разумею?*

*– А можа, маё неразуменне вынікае з маёй рэлігійнай недасведчанасці?*

*– Што раблю, каб паглыбіць свае рэлігійныя веды?*

*– Ці хачу, каб Бог вёў мяне па жыцці?*

*– Ці шукаю Яго волі?*

*– Як гэта раблю?*

*– Ці сур'ёзна стаўлюся да натхненняў Святога Духа, якія Ён мне нараджаюцца?*

*– Ці жыву паводле гэтых натхненняў?*

*– Ці давяраю аценцы Касцёла і спаведніка сапраўднасць гэтых натхненняў?*

*– Ці цаню, што знаходжуся ў супольнасці, згуртаванай Богам?*

*– Што раблю, каб і іншыя знайшлі ў Касцёле Бога?*

*– Як будую супольнасць Касцёла?*

**26 мая 2013 г.** **Ян 16, 12-15**

Вялікі, святы і незразумелы Бог схіліўся над створаным Ім Самім чалавекам, каб уратаваць яго ад грэху і смерці. Ён, як тата, даў нам жыццё. А дзякуючы Сваёй перамозе вызваліў нас ад вечнай смерці і ад смерці цемры і грэху. Ён – Бог, Дух Святы сышоў на нас, каб асвяціць нам дух на дарозе за Ім. Каб зрабіць нас падобнымі да Бога. Гэта таямніца шчасця ахрышчаных у імя Найсвяцейшай Тройцы.

*– Ці памятаю, хто такі Бог?*

*– Ці шаную ў сабе тое, што бясконцы Бог захацеў мець са мной справы?*

*– Ці спрабую знайсці сэнс і вартасць жыцця?*

*– Ці шукаю адказу на жыццёвыя пытанні ў Бога?*

*– Ці, можа, гляджу на жыццё толькі паводле свецкай "лесвіцы" каштоўнасцяў?*

*– Ці прагну любові?*

*– Ці змагаюся са злом грэху ў сабе?*

*– Ці цаню адпусканне грахоў, якое заваяваў для мяне Езус?*

*– Ці дазваляю Богу перамяняць самога сябе?*

*– Ці з'яўляюся паслухмяным выхаванцам Святога Духа?*

**2 чэрвеня 2013 г.** **Лк 7, 1-10**

Словы Езуса маюць сілу. Дзякуючы Яго слову вылечыўся хворы. Вобраз сотніка з'яўляецца для нас узорам веры ў сілу слова Езуса. Некалькімі радкамі вышэй Езус вучыць, што Яго слова трэба слухаць і выконваць. Тады наша жыццё будзе трываласці, здольным супрацьстаяць выпрабаванням. Сотнік, маючы ваенны вопыт, ведае, што словы начальніка выклікаюць свае наступствы. Ён прызнае сілу Езуса і ў сувязі з гэтым давярае сіле Яго слова.

*– Ці прызнаю Езуса Панам усяго свету?*

*– Ці прызнаю Езуса сваім Панам і Панам свайго жыцця?*

*– Ці сур'ёзна ўспрымаю Яго слова і Яго навуку?*

*– Ці разважаю над Божым Словам?*

*– Ці шукаю ў ім Божай волі?*

*– Ці разумею, што Святое Пісанне – гэта больш чым пабожная літаратура?*

*– Ці стараюся жыць тым, што пачуў, разважаючы над Божым словам?*

*– Ці абмяркоўваю са святаром, спавядаючыся і ў час духоўнага кіраўніцтва, сваю вернасць Божаму слову?*

*– Ці гавару ў рахунку сумлення і ў споведзі пра занядбанне Божых натхненняў?*

*– Ці пытаюся ў сябе вечарам, як я сёння выконваў Божую волю і ці быў верны слову Езуса?*

**9 чэрвеня 2013 г.** **Лк 7, 11-17**

Словы Езуса прыносяць жыццё. Ён мае сілу не толькі ажывіць мёртвага, але і даць нам усім вечнае жыццё. Вырваць нас са смерці грэху. Для гэтага трэба сур'ёзна ставіцца да Яго слоў. Лука звяртае ўвагу на няшчасную ўдаву, якая плача, бо разам з сынам страціла надзею на будучыню. Езус злітаваўся з яе. Ён разумее няшчасных людзей. Падыходзіць, дакранаецца і ўваскрашае сваім словам. Ён – Збаўца, Які патрэбны нам.

*– Ці спадзяюся на Езуса ў маёй бядзе, слабасці і смерці грэху?*

*– Ці веру, што Яго слова можа змяніць маю будучыню?*

*– Ці слухаю Яго слова?*

*– Ці дазваляю Яму перамяняць мяне ў малітве, у Сакраманце споведзі?*

*– Ці дазваляю Езусу дакранушца да маіх самых балючых месцаў? А можа, хачу застацца сам-насам са сваім няшчасцем?*

*– Ці можа Езус праз мяне дакранушца да нешчаслівых і бедных?*

*– Ці з'яўляюся "дотыкам" Божай любові для іншых?*

*– Ці з'яўляецца мая любоў да братоў знакам маёй веры ў слова Езуса?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Што значыць быць фатографам?

**4 мая ў Глыбокім адбылася доўгачаканая фотамайстэрня "Рэпартажная фатаграфія. Як паказаць падзею трыма фотаздымкамі". Запрошаным госцем быў Аляксандр Зянкоў, фатограф з Беларускай Асацыяцыі Журналістаў. Арганізатарам майстэрні стаў рэдактар "Каталіцкага Весніка" кс. Віктар Місевіч.**

■ **с. Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*





Імпрэза сабрала шматлікіх аматараў фотаздымкаў з розных куткоў Беларусі (Глыбокае, Мінск, Паставы, Варапаева, Шуміліна, Наваполацк, Ліда і Баранавічы). Спадар Аляксандр звярнуў увагу на такія пытанні: як працаваць з лічбавай апаратурай і правільна ёй карыстацца; як зрабіць правільны фотарэпартаж з падзеі некалькімі здымкамі, каб зацікавіць чытача інфармацыяй.

Пасля абеду кожны ўдзельнік меў магчымасць прымяніць на практыцы набытыя веды, працуючы над фотарэпартажам з мясцовасці. Пасля адбылася прэзентацыя прац, падчас якой можна было пачуць заўвагі і парады ад прафесійнага фатографа – спадара Аляксандра.

Напэўна, гэтая майстэрня прынясе шмат карысці для кожнага ўдзельніка і павысіць прафесійны ўзровень. Шмат пачутага матэрыялу і практычныя заняткі – гэта найлепшы падмурак не толькі для фатографа-пачаткоўца, але і таксама для тых, хто з фота працуе ўжо не першы год. Спадзяёмся, што плён майстэрні мы зможам убачыць у газеце "Каталіцкі Веснік" і на нашым сайце.

А на заканчэнне некалькі ўдзельнікаў падзяліліся з намі сваімі ўражаннямі:

***"Мне вельмі спадабалася фотамайстэрня. Тут я больш даведалася пра фота. Аляксандр вельмі добра растлумачыў, што гэта значыць "быць фатографам". Вялікі дзякуй!"***

*Карына Радзюш, Паставы*

***"Супер! Вельмі спадабалася. Для сябе атрымаў адказы на пытанні, якія мяне цікавілі. Вялікі дзякуй арганізатарам!"***

*Андрэй Даўжонак, Наваполацк*

***"Купіла фотаапарат, і для мяне майстэрня стала цудоўным падарункам, паколькі я атрымала адказы на актуальныя пытанні. Працаваць і пазнаваць у фатаграфаванні ёсць яшчэ шмат чаго, але першы крок, я лічу, атрымаўся добры. Вельмі ўдзячная арганізатарам за фотамайстэрню. Дзень прайшоў недарэмна".***

*Насця Маслюк, Наваполацк*

***"Для меня этот семинар был очень полезным и плодотворным. Когда я начинала серьёзно заниматься фотографией, я искала в интернете много различных фотоуроков, чтобы получить хотя бы какие-нибудь азы. Конечно, я чему-то научилась, но всё же были вопросы и проблемы, как и что фотографировать, на что обращать внимание.***

***Благодаря этому семинару я получила ответы на все мои вопросы. Нашла свои ошибки и получила много нужных советов. А благодаря практике, на которую было выделено время, можно было поэкспериментировать и применить все советы Александра Зенкова.***

***Я очень благодарна организаторам за этот семинар".***

*Анастасія Даўгілава, Шуміліна*

***"Па-першае, дзякуй вялікі! Нам вельмі спадабалася. Можам сказаць з упэўненасцю, што сённяшняя фотамайстэрня прынясе свой плён!***

***А па-другое, раскрыем "страшную" таямніцу :). Калі мы сустрэліся ўчора вечарам, адольвалі нас сумненні: Што ды як? Мы ж нічога не ўмеем! Пэўна, нам будзе няёмка ў Глыбокім на фотамайстэрні. На шчасце, мы пераадолелі свае страхі і прыехалі. Не пашкадавалі! Даведалися шмат чаго новага. Атрымалі магчымасць праявіць сябе і пачуць крытычныя заўвагі прафесіянала. Вяртаемся ў Мінск натхнёныя на фотаподзвігі. Яшчэ раз вялікі дзякуй!"***

*Аня Ліцкевіч з Баранавіч і Марына Пашкевіч з Ліды*

***«Вялікі дзякуй. Не думаў, што такі дрымучы лес у маёй ў галаве».***

*Анатоль Цырук, Глыбокае*

**P.S.** Рэдакцыя «Каталіцкага Весніка» выказвае шчырую падзяку **кс. Мечыславу Янчышыну** з Глыбокага за дапамогу ў арганізацыі гэтага семінара.

**Адказы на віктарыну са старонкі 6**

| | |
|---|---|
| 1. В | 6. А |
| 2. А | 7. В |
| 3. Г | 8. Б |
| 4. Б | 9. Б |
| 5. Г | 10. Г |

## Віншуем!



***Кс. Мечыслаў Янчышын, пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, адзначае 25-годдзе Святарства.***

*З гэтай нагоды жадаем Вам, шаноўны кс. Мечыслаў, каб Ваша святарскае сэрца і надалей адкрывалася на неабсяжную Божую любоў, каб ніколі не пагас апостальскі запал, каб хапала сіл на рэалізацыю высакародных планаў! Няхай побач з Вамі заўсёды будуць паплечнікі з гарачымі сэрцамі, якія дапамогуць прывесці бліжніх да Хрыста. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі і супакоем, а Маці Божая апякуецца ў кожнае імгненне жыцця.*

*З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Св. Тройцы ў Глыбокім*

## ЗАПРАШАЕМ НА РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЗАРУЧАНЫХ!



**Як падрыхтавацца да сакраманту сужэнства, калі жаніх і нявеста жывуць у розных гарадах?**

Вы даўно сустракаецеся і добра ведаеце адно аднаго. Вы ўпэўненыя, што ваш абраннік – гэта той чалавек, з якім вы гатовыя пражыць усё жыццё. Перажываныя пачуцці вы беспамылкова вызначаеце як любоў. Вы ўпэўненыя, што ваша сумесная будучыня будзе цудоўнай. Вы ніколі не зробіце балюча адно аднаму. А ўсялякія недахопы адно ў адным вы лёгка выправіце. Ды і навошта іх выпраўляць, яны ж такія мілыя… Можа быць толькі адна праблема, а менавіта калі вы жывяце ў розных гарадах і не можаце разам хадзіць на перадшлюбныя катэхезы, а пробашч вашай парафіі адмаўляецца без гэтай "фармальнасці" вас вянчаць.

Прыязджайце разам на рэкалекцыі для заручаных, якія адбудуцца з 31 мая па 2 чэрвеня ў Душпастырскім цэнтры ў Мінску (вул. Кальцова, 153). Гэта будзе цудоўная магчымасць ў форме рэкалекцый падрыхтавацца да шлюбу. А можа, вы адкрыеце адно пра аднаго нешта новае, што пакажа вас і вашу будучыню зусім з іншага боку, чым раней.

**Кантактныя нумары для запісу на рэкалекцыі:**

Павел і Алена Кузьміцкія +375 29 6045467

Іван і Алена Лубінскія +375 29 5562635, +375 29 1408456, +375 29 7821466

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 4020

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3000 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 23.05.2013 г. у 23.12

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1 Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл. Тэл.: 8(02157)3-30-44 e-mail: mail@catholicnews.by http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ